

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь,
твой народ
дачакаецца
Залацістага,
яснага дня!
М. Багдановіч.*

№ 17 (146), СНЕЖАНЬ 2012 ГОДА


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## УЛАДА ЦЕМРЫ

**У вёсцы Мікіціха ў дзіцячым ложку згарэла дзіця, якому было крыху больш месяца. Аддзелам Следчага камітэта Шумілінскага раёна ўзбуджана крымінальная справа супраць 26 гадовай жанчыны, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. Маладая маці падазраецца ў наўмысным падпале дзіцячага ложка, у якім знаходзіўся яе сын. Хлопчык памёр на месцы ад атрыманых апёкаў.**

Казаць аб канкрэтных прычынах, якія прывялі да трагедыі, пакуль яшчэ рана. Спецыялісты спасылаюцца на тайну следства, праводзіцца шматлікія экспертызы, у тым ліку і псіхіятрычная. Паводле папярэдніх дадзеных, жанчына знаходзілася ў гасцях у сваёй маці-пенсіянеркі, якая пражывае ў вёсцы Мікіціха. На момант узнікнення пажару гаспадыня кватэры і яе сын былі на рабоце. У доме знаходзіліся маці хлопчыка, яе сястра і дзеці. Калі жанчына зайшла ў пакой, яна ўбачыла ахоплены агнём ложак. На крык прыбегла сястра і заліла ложак вадой, але было ўжо позна – уратаваць хлопчыка было немагчыма. У цяперашні час падазроная ўзята пад варту.

Кожны год у нашай краіне адбываюцца выпадкі забойства дзяцей. Асабліва жорстка распраўляюцца з немаўлятамі. Малых выкідваюць праз акно, закопваюць у снежны сумёт, выносяць на звалку са смеццем, топяць. За апошняе паўгоддзе такіх надзвычайных здарэнняў было чатыры, а тры адбыліся ў снежні.

За наўмыснае забойства дзяцей прадугледжана пазбаўленне волі да 25 гадоў. Калі жанчына зрабіла гэта ў стане псіхозу, яна адказвацць не будзе. Усё вырашае суд.

Хто яны, маці-забойцы родных дзяцей? 10 снежня ў Салігорску ў адной з кватэр знайшлі мёртвымі гадавалага хлопчыка і трохгадовую дзяўчынку, целы якіх знаходзіліся ў ваннай. 23-гадовая маці забітых дзяцей знікла без вестак. 19-гадовая жыхарка Пінска хавала ад родзічаў сваю цяжарнасць, да лекараў не звярталася. 10 студзеня яна ўпотай у сябе на кватэры нарадзіла дзяўчынку, задушыла пятлёй з сурвэткі, а праз тры дні выкінула ў смецеправод. А яшчэ раней, 23 жніўня, з акна 9-га паверха сваёй кватэры выкінулася 32-гадовая журналістка разам з сынамі двух і сямі гадоў. Усе яны загінулі.

Апошнія выпадкі, якія атрымалі шырокі рэзананс у прэсе, гэта – наўмысныя забойствы. Інфантыцыд (забойства немаўлят) становіцца больш характэрнай з'явай для нашага грамадства. Эксперты адзначаюць, што сваіх нованароджаных дзяцей пакідаюць у небяспецы або забіваюць, як правіла, сацыяльна-непаспяховыя жанчыны, якія маюць алкагольную залежнасць. Але ёсць і адносна шчасныя жанчыны, якія нарадзілі двух і больш дзяцей, якія вырашаюць крымінальным чынам пазбавіцца ад нованароджанага.

Але ўсё ж: адкуль такая жорсткасць? Да прыкладу, у 2008 годзе ў Гродна 17-гадовая школьніца выкінула мёртвае дзіця ў смецевы кантэйнер з… 18 колата-рэзанымі ранамі. Праблема пазбаўлення ад нованароджаных шляхам забойства – з катэгорыі маральных заган грамадства. Хібы выхавання праяўляюцца тут найбольш яскрава.

У міліцэйскай практыцы ўсё больш прыкладаў абсалютна жывёльных паводзін гора-маці. У Баранавічах на сметніку было знойдзена цела нованароджанага дзіцяці. Хутка пад падазрэнне аператыўнікаў трапіла навучэнка адной з сярэдніх навучальных устаноў. Яе адшукалі прама ў ложку чарговага "кавалера". І гэта на трэці дзень пасля родаў! Што тут яшчэ можна каментаваць? Некаторыя з забойцаў спрабуюць тлумачыць свае ўчынкі тым, што маюць дзяцей, але не маюць магчымасці пракарміць яшчэ адно. У Брэсцкай вобласці ў 2010 годзе былі асуджаны тры жанчыны за забойствы немаўлят, адна з іх наўпрост выліла нованароджанага на агарод разам з памыямі, як непатрэбную рэч у гаспадарцы. Але на судзе ўсе яны імкнуліся сябе выгарадзіць, маўляў дзеці нарадзіліся нежывымі. Толькі следства даказала іншае – усе трое атрымалі па 8 гадоў турмы.

Ёсць меркаванне, што жанчыны забіваюць сваіх дзяцей, каб не выплочваць кампенсацыю на іх утрыманне ў тым выпадку, калі малы будзе жыць у дзіцячым доме. На сённяшні дзень штомесячная сума выплат на ўтрыманне дзіцяці складае каля аднаго мільёна рублёў. Для маці-зязюлі гэта многа.

Як бы там ні было, але дзікунства ў 21 стагоддзі ніякай спажывецка-утрыманскай псіхалогіяй апраўдана быць не можа. Увогуле, ствараецца ўражанне, што цемра бездухоўнасці ў простым народзе застаецца на ўзроўні сярэднявечча. Яшчэ ў 19 стагоддзі расейскімі ўладамі і царом Аляксандрам III быў забаронены спектакль "Улада цемры", у якім была паказана праўдзівае жыццё прыгнечаных сялян з выпадкамі забойства немаўлят. Адтуль пайшоў вядомы афарызм "В России две напасти: внизу – власть тьмы, а наверху – тьма власти". Ці не вяртаецца Беларусь у змрочную эпоху?

**Аляксандр Шчамлёў.**

ПРАВАПАРАДАК

## Бацькі не хочуць несці адказнасць за дзяцей

*Як вядома, часцей за ўсё дзеці ладзяць сваё жыццё па прыкладу дарослых. Як жыць і працаваць яны вучацца ў сваіх таты і мамы. Па крывых слядах нядбайных бацькоў крочаць і дзеці. Менавіта з такіх сем'яў трапілі дзеці на адкрытае пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх, якая праходзіла ў Мікіціхінскай школе.*

Чацвёра васьмікласнікаў адказвалі за свае ўчынкі. Адзін хлопчык губіць сваё маладое жыццё, ужываючы алкаголь. Дайшло да таго, што ён з'явіўся на занятку ў нецвярозым стане. За што яго маці і атрымала 10 базавых велічынь штрафу, а дзіця рэкамендавалі паказаць раённаму нарколагу. Яшчэ трое падлеткаў, збіўшыся ў хуліганскі гурт, фізічна здзекаваліся з вучня, прычым прыніжалі яго чалавечую годнасць сістэматычна. Было заўважана, што матулям агрэсіўных падлеткаў да іх бесчалавечных паводзін увогуле няма ніякай справы. Схамянуліся толькі тады, калі за ўчынак сваіх сыноў стала пагражаць пакаранне штрафам ў памеры аднаго мільёна рублёў. Усе жанчыны дружна выказалі нязгоду за грашовае спагнанне за кошт сямейнага бюджэту. Нам жаль, бацькі так і не ўсвядомілі ўсёй адказнасці, якую яны павінны несці за ганебныя ўчынкі сваіх дзяцей. Бо гэта менавіта іх пралікі ў выхаванні, калі дзіця не можа нармальна адаптавацца ў грамадстве, з маленства не прывучана да законапаслухмянасці, павагі да правоў асобы.

Ці стане дзейсным рычагом у ахове бяспекі і правапарадку жыхароў раёна падобная практыка выхоўвання неблаганадзейных грамадзян? Пакуль што адназначнага адказу няма – насельніцтва па-ранейшаму співаецца, а злачыннасць расце.

**С. Горкі.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## АБЯЦАЮЦЬ ПАВЫШЭННЕ СНЕЖАНЬСКІХ ЗАРОБКАЎ

**Падчас сустрэчы з Лукашэнкам на ААТ "Віцебскдрэў" старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец абяцаў давесці сярэдні снежаньскі заробак у вобласці да пяці мільёнаў – 580 долараў. Райвыканкамы і адпаведныя ўпраўленні ўжо атрымалі лісты ад старшыні камітэта па працы Аляксандра Хрыстафорава "Аб узроўні заработнай платы на снежань 2012 года". У адпаведным дакуменце ёсць лічбы, якія датычацца і Шумілінщчыны.**

Варта адзначыць, што дасягненне вышэйшага заробку ставіцца перш за ўсё перад адміністрацыямі буйных гарадоў рэгіёна. Самая высокая планка паднята для Наваполацка ў 7 мільёнаў 50 тысяч рублёў, што вышэй лістападаўскага ўзроўню на 1 млн. 565 тыс. рублёў. Для працаўнікоў г. Віцебска – 5млн. 400 тыс. руб., для Полацка – 5 млн. 170 тыс. руб., для Воршы – 5 млн. 150 тыс. руб.

Да сельскіх раёнаў Віцебшчыны даведзены узровень заработнай платы будзе ніжэйшым, чым у гарадах, а ў Браслаўскім, Гарадоцкім, Лёзненскім, Міёрскім, Ушацкім, Шаркоўшчынскім і Шумілінскім не дасягне і чатырох мільёнаў рублёў. Перад Шумілінскім раёнам пастаўлена планка дасягнення сярэдняга заробка ў снежні на ўзроўні 3 млн. 840 тысяч рублёў. Прычым на гэты ўзровень трэба скочыць з лістападаўскай лічбы ў 2 млн. 797 тысяч рублёў. А гэта азначае, што заробкі ў параўнані з лістападаўскімі трэба павялічыць аж на 37% – у адносным вымярэнні Шумілінскі раён павінен апынуцца ў лідэрах вобласці па падвышэнню заробкаў.

Для дасягнення неабходнага снежаньскага фонду аплаты працы неабходна прыцягнуць па вобласці каля 500 мільярдаў рублёў. Для 6726 работнікаў спісачнага складу Шумілінщчыны гэта лічба роўна 7 мільярдаў рублёў. Не зусім зразумела, дзе кіраўніцтва раёна знойдзе такія вялікія грошы?

**Уладзімір Амбросаў.**

РЭКАНСТРУКЦЫЯ

## Дом культуры будзе адноўлены

**Другое нараджэнне гарадскому Дому культуры абяцаюць шумілінскія чыноўнікі. Праўда, рэканструкцыя будзе праводзіцца паступова, згодна з графікамі бягучых рамонтаў. Выдаткі патрабуюцца вялікія – гаворка ідзе аб суме ў некалькі мільярдаў рублёў.**

Гэтай падзеі работнікі культуры і жыхары райцэнтра чакаюць даўно. Яшчэ пяць гадоў таму было выдзелена 35 мільёнаў рублёў на мадэрнізацыю ўнутранных памяшканняў будынка. У прыватнасці, змянённі кранулiся сцэны, было закуплена новае светавое і гукавое абсталяванне. Пачалася замена зношаных цяплавых сетак. На гэтым першая чарга рамонту была завершана.

Па меншай меры недальнабачна было б зусім зачыніць Дом культуры падчас капітальнага рамонту на год або два. Што пасля гэтага будзе ўяўляць сабой горпасёлак без цэнтра культуры? Развіццё вытворчасці раёна без прытоку моладзі бесперспектыўнае, адной работай і заробкамі маладых не прыцягнуць. Словам, культура тут і належныя ўмовы адпачынку – фактар вырашальны. Да таго ж на капітальны рамонт патрабуюцца занадта вялікай сумы грошай, якія адразу знайсці немагчыма. Таму рэканструкцыя будзе праходзіць паэтапна, згодна з праектна-каштарыснай дакументацыяй.

Ужо асвоена 70 мільёнаў рублёў для набыцця двух дзесяткаў пластыкавых акон са шклопакетамі, яшчэ 55 мільёнаў для вакон на галоўным фасадзе будынка і каля 30 мільёнаў для іх устаноўкі. Аднак адным шклопакетамі выгляд будынка на больш сучасны не зміняць. Пабудаваны за савецкім часам у семідзесятыя гады мінулага веку, будынак даўно і безнадзейна састарэў.

У будучым годзе рамонт будзе працягвацца, але пры ўмове, калі своечасова паступяць сродкі. Не мінуць рэканструкцыі галоўны ўваход, заменяць астатнія 14 вокнаў, правядуць частковы рамонт даху. Шумілінцы чакаюць, калі будынак культуры нарэшце зробяць утульным і прыгожым, максімальна прыстасаваным да камфортнага адпачынку.

**С. Горкі.**

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам***

ПРАВАПАРАДАК

# Выхоўваюць тых, хто прывык жыць па камандзе

**Праца з неблаганадзейнымі катэгорыямі грамадзян застаецца самай актуальнай у раёне. Парушальнікі грамадскага парадку перашкаджаюць спакойна жыць прыстойным людзям, а канфліктныя сітуацыі, учыненыя імі, нярэдка прыводзяць да злачынстваў. З мэтай прафілактыкі правапарушэнняў апошнім часам адбылося некалькі мерапрыемстваў, на якіх праводзілася выхаваўчая работа з асобамі, схільнымі да супрацьпраўных паводзін.**

Наглядальная камісія на чале з намеснікам старшыні райвыканкама Анатолем Зайцавым акрэсліла дзейнасць на будучы год. Эфектыўная праца магчыма ў тым выпадку, калі пэўная ўвага будзе надавацца асобам, якія сістэматычна злоўжываюць спіртнымі напоямі, нідзе не працуюць або вярнуліся з месцаў пазбаўлення волі, ці знаходзяцца ў ізалятары раённага аддзела ўнутраных спраў.

На пасяджэнні пункта аховы правапарадку былі разгледжаны асабістыя справы 24 чалавек. Практычнай часткай пасяджэння стала грунтоўная гутарка з парушальнікамі закону ці агульнапрынятых маральных нормаў жыцця. Пры гэтым выхаваўчая работа з грамадзянамі, здольнымі на супрацьпраўныя дзеянні, была скіравана на праблему п'янства і алкагалізму, якая па-ранейшаму застаецца самай сацыяльна значнай ў раёне. Усіх выкліканых прасілі растлумачыць недастойныя паводзіны. Як высветлілася, многія грамадзяне, якія бяздумна злоўжываюць спіртнымі напоямі, трапляюць у лагічны ланцужок: выпіў – пасварыўся з жонкай, трапіў у поле зроку міліцыі.

Вось і ў выпадку ўжо немаладога 50-гадовага мужчыны цяга да чаркі распаліла сямейны скандал з маці. Вінавата апусціўшы вочы, мужчына спрабаваў апраўдацца, маўляў, гэта была ўсяго толькі спрэчка. Аднак сумніўна, што з-за славеснай "палемікі" маці спалохалася і выклікала міліцыю. Да таго ж яе сын нідзе не працуе і сядзіць на матчынай пенсіі.

Гарэлка стала непасрэднай прычынай для абмеркавання амаральных паводзінаў яшчэ двух грамадзян. Сцэнарый адзін і той жа: першы так напіўся на памінках, што апынуўся ў канаве, а другі не памятаў, як пераблытаў вакзал з лазняй.

З тымі, хто ўжо ўчыніў злачынства, панеслі пакаранне, працуе наглядальная камісія. Задача не ў карных мерах – чалавеку, які аступіўся, трэба ж неяк жыць далей. Нехта згубіў дакументы, хтосьці не мае жылля, іншыя не могуць знайсці працу. Па кожнаму прымаецца рашэнне, прапануецца рэальны выхад з сітуацыі: месца працы, лячэнне, кадзіраванне і інш. Усе, хто вырашыў выправіцца – атрымае падтрымку. Пазіцыя ўладаў рашучая – нахлебнікаў у дзяржаве не павінна быць. А як справіцца кожны парушальнік – пакажа час.

**Я. Вайтовіч.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# СУСТРЭЧА З ПАЭТАМ І КРАЯЗНАЎЦАМ

**Незабыўная сустрэча адбылася ў раённай бібліятэцы з віцебскім паэтам Мікалаем Наменсікавым. Сапраўдным адкрыццём для шумілінцаў сталі шчырыя і пранікнёныя расповеды Мікалая Уладзіміравіча аб тых каштоўнасцях жыцця, якія натхняюць душу паэта.**

Падчас сустрэчы паэт яскрава расказаў пра сваю жыццёвую дарогу, творчыя здабыткі, чытаў вершы, прысвечаныя вобразам і людзям роднага краю. Яго героі – самыя звычайныя людзі, якія нясуць у сябе вопыт самабытнага жыцця. Аудыторыя была проста зачаравана манерай выказвання аўтарам асабістых твораў. Гісторык па адукацыі і прызначэнню, паэт пешшу даследаваў многія раёны Віцебшчыны. У сваёй творчасці ён змог выдатна пераплавіць мінулае і сённяшняе роднай зямлі, грамадскае і асабістае - жыццё ва ўсёй сваёй непрадказальнай рознакаляровасці, якое натхняе на пошук новых вобразаў і метафар. Асабліва ўражвае цыкл вершаў, прысвечаных Заходняй Беларусі.

У час адпачынкаў (больш за дваццаць пяць гадоў запар) на чыстым, як гаворыцца, энтузіязме паэт Наменсікаў даследуе заходнія раёны вобласці. Зыходзіў уздоўж і папярок Браслаўшчыну і Глыбоччыну, Міёрскія і Докшыцкія землі. Пазнаёміўся з цікавымі людзьмі, даведаўся шмат дзіўных гісторый. Вынік гэтых займальных паездак і паходаў - тоўстыя папкі з матэрыяламі, шматгадзінныя дыктафонныя запісы ўспамінаў старажылаў.

Адгалоскі падарожжаў паэта чуваць і ў яго вершах "Пліса", "У Браславе сонным ёсць куток", "Аўтапартрэт на фоне мястэчка", "Пані Ядвіга і пан Тэадор" і іншых.

Віцебскі паэт Мікалай Наменсікаў па натуры чалавек не публічны. Піша ў першую чаргу для сябе, аддаючы ў друк толькі вершы, на яго погляд, вартыя ўвагі. Але ў чарадзе літаратурных вечароў выступ паэта – заўсёды падзея для аматараў вершаскладання. Тры зборнікі: "Забытыя нябёсы", "На ростанях вятроў і дарог", "Лістапад спавядальны", публікацыі ў літаратурнай перыёдыцы і калектыўных выданнях запомніліся чытачам і крытыкам. Дарэчы, у лістападаўскім нумары часопіса "Нёман" надрукавана падборка яго вершаў "Крыніцы маці – глыбіня". Да асабістай творчай патрабавальнасці Наменсікава абавязвае і грамадская пасада – кіраўнік секцыі паэзіі абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Мікалай Наменсікаў – рускамоўны паэт, асабіста захапляецца творчасцю Андрэя Вазнясенскага, але не забывае родную мову і мае пэўнае кола сяброў сярод беларускамоўных. Безумоўна, яму вельмі падабаецца Уладзімір Караткевіч, Уладзімір Някляеў, Рыгор Барадулін.

Мікалай Наменсікаў падзяліўся з чытачамі планамі на будучыню. Цяпер ён рыхтуе да друку кнігу пад працоўнай назвай "Мястэчкі віцебскага Паазер'я". У планах яшчэ дзве – аб каменных крыжах і аб маёнтках Віцебшчыны. Сабраны багаты матэрыял. Думаецца, што і ў гэтым жанры Мікалай Наменсікаў знойдзе прыхільнікаў.

Вечарына праляцела імгненна. Словы падзякі, пажаданні творчага натхнення, здзяйснення планаў і праектаў выказалі шумілінскія аматары паэзіі. У сваю чаргу паэт, які закаханы ў гісторыю, падсумаваў, што работы –непачаты край, на вершы часу застаецца вельмі мала.

**Алесь Прыбярэжны.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# З РЫДЛЁЎКАМІ СУПРАЦЬ СНЕГАПАДАЎ

**Ужо ў першай дэкадзе снежня раён літаральна замяло. Засыпаныя снегам вуліцы, двары шматкватэрных дамоў, пляцоўкі для стаянак аўтамабіляў, тратуары, гарадскі парк, цэнтральная плошча – такім паўстала Шуміліна пасля снегападаў. Камунальнікі і дарожная служба працуюць у напружаным рытме, аднак не паспяваюць поўнасцю расчысціць усе вуліцы райцэнтра.**

Сёлетняя зіма ў чарговы раз аказалася шчодрая на снегапады і надала шмат клопатаў камунальнікам. Што і казаць, умовы надвор'я стварылі аўральную сітуацыю і высвецілі кола праблем, уласцівых камунальнай службе. Нягледзячы на тое, што шумілінскія камунальнікі да зімы нібыта падрыхтаваныя, але ўсё ж аказаліся няздольныя вызваліць увесь пасёлак ад снежнага палону. У раёне няма сучасных снегаўборачных машын, спецыяльнай тэхнікі, якая б магла не толькі чысціць вуліцы ад снегу, але і вывозіць яго за межы гораду. На аб'ектах працуюць усяго толькі адзін МАЗ і тры трактары МТЗ.

Вядома, у першую чаргу імкнуцца расчысціць ад снегу цэнтральныя вуліцы і дарогі. А там, дзе тэхніка не зможа прайсці, з ападкамі змагаюцца работнікі камунгаса і дворнікі. У пераважнай большасці гэтай работай займаюцца жанчыны з рыдлёўкамі, і зімовыя выпрабаванні для іх –значная нагрузка. Тым не менш, работа спорыцца. Але занадта вялікія ўчасткі работы. Да прыкладу, брыгада з васьмі чалавек павінна абслугоўваць пяць вуліц: Луначарскага, Маладзёжную, Ленінскую, Сіпко і Валадарскага.

Работнікам дарожнай службы даручана расчыстка пад'ездаў да вёсак. Іншым разам працаваць даводзіцца ў дзве змены: ад раніцы і да позняга вечара, бывае, што і да двух гадзін ночы. Непасрэднай ачысткай займаюцца чатыры аўтагрэйдэры і шэсць трактароў з лапатамі. Яшчэ на дарогах раёна задзейнічаны чатыры раскідвальнікі пяску і адзін МАЗ. А вясковыя вуліцы ад снегу расчышчаюць механізатары мясцовых сельгаспрадпрыемстваў.

Дарэчы, аб прымяненні дарожна-тратуарных сумесей. У Міністэрстве аховы здароўя лічаць, што соль падрывае здароўе людзей і псуе пакрышкі, праядае абутак. Яшчэ ў мінулым годзе прынялі пастанову аб забароне солі з пяском. Пры распрацоўцы дакумента спецыялісты карысталіся расійскім досведам: падобная забарона дзейнічае ў Маскве. У расійскай сталіцы сёння са снегам і галалёдзіцай змагаюцца з дапамогай хларыдна-фасфатнага дадатку.

Аднак, нягледзячы на прынятую пастанову, камунальныя службы, як па ўсёй краіне, так і ў нашым раёне працягваюць змагацца са снегам і лёдам соллю з пяском. Шумілінскае УП ЖКГ мае ў запасе 240 тон пясчана-солевай сумесі, якую раскідваюць на самазвалах па дарогах райцэнтра. Пры галалёдзе за суткі змогуць рассыпаць да дзесяці тон.

**Я. Вайтовіч.**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# ЯК ЖЫЦЬ БЕЗ ВАДЫ?

Зараз для жыхароў горпасёлка Обаль гэта вельмі актуальнае пытанне. Праблема неаднойчы абмяркоўвалася і на ўзроўні райвыканкама, і раённага Савета дэпутатаў. Аднак поўнага забеспячэння вадой абальчане дагэтуль не дачакаліся. Прычына ¬– зношанасць камунікацыяў.

Обальскі ўчастак ЖКГ – самы буйны ў раёне. Яшчэ ў пачатку года пачалися зрухі па замене водаправодных сетак, бо частыя парывы і аварыі павялічвалі выдаткі, непакоілі спажыўцоў і дабаўлялі клопатаў мясцовым уладам. Аднак масштабныя работы так і не пачалися.

Першымі забілі трывогу жыхары на вуліцы Першамайскай: у чэрвені падчас падворнага абходу яны паскардзіліся прадстаўнікам райвыканкама на адсутнасць гарачай вады ў выхадныя дні. Намеснік дырэктара камунгаса Раман Бабіч абяцаў вырашыць праблему гарачага водазабеспячэння ў бліжэйшы час. Як паказаў час, абяцанні чыноўніка не спраўдзіліся. Больш таго, абальчане засталіся яшчэ і без халоднай вады. У кватэры жыхароў на чацвёртых і пятых паверхах да позняй ночы вада наогул перастала паступаць. Да таго ж пагоршылася і якасць пітной вады на вуліцы Першамайскай. Аб гэтым у калектыўным звароце было выказана жыхарамі пасёлка, які быў адрасаваны кіраўніку раёна Уладзіміру Куранному. Уладзімір Пятровіч у сваю чаргу запэўніў, што ў снежні будуць завершаны рамонтныя работы і пад Новы год у людзей праблем з вадой не будзе.

А затым, як звычайна бывае, пацягнулася валакіта: новыя звароты, лісты ў розныя больш высокія інстанцыі, бясконцыя скаргі чыноўнікам і начальнікам. Ведаючы закаранелую праблему абальчан старшыня Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў Аляксандр Ацясаў, абяцаў трымаць на кантролі сітуацыю дэпутат "Палаткі" Уладзімір Шыцько.

Толькі зіма не прымусіла сябе чакаць: прыціснулі першыя маразы, а спажыўцы акрамя слоў "работы вядуцца" нічога не атрымалі. Людзі справядліва абураюцца, маўляў, як можна нармальна жыць у такіх умовах. Адна жанчына з Обалі расказала, што ўжо некалькі месяцаў па начах набірае ваду, каб прыгатаваць ежу і памыць бялізну. І гэта ў тым выпадку калі пашанцуе, бо вада з крана ледзь цячэ, і, каб набраць вядро, трэба затраціць паўгадзіны. Але ж вада патрэбна людзям не ўначы, а днём!

Як бы там ні было, але гэта праблема не лакальная і не тычыцца аднаго дома. Калі па вышэйназваных скаргах усё зразумела, то пытанні, якія абяцалі вырашыць чыноўнікі, патрабавалі працяглага часу і вялікіх сродкаў. Справа ў тым, што тэрмін службы існуючых свідравін сыйшоў, а рэзервовая не ў стане забяспечыць пасёлак вадой у поўным аб'ёме. Таму ў верасні з раённага бюджэту было выдаткавана 200 мільёнаў рублёў на бурэнне новай свідравіны. Акрамя гэтага, існуе праграма "Чыстая вада" 2011-2015 гады, паводле якой было запланавана бурэнне новых свідравін і станцыі абезжалезвання вады. Аднак у далейшым узніклі фінансавыя цяжкасці, і будаўніцтва спынілася. Раённыя ўлады шукалі дадатковыя 700 мільёнаў рублёў, якія былі неабходны для таго, каб работы працягваліся.

З аналізу вынікае, што праблема з пітной вадой не застала спажыўцоў і чыноўнікаў знянацку, пра зношанасць аб'ектаў водазабеспячэння ведалі ўсе зацікаўленыя асобы раёна і вобласці. Але па ўсяму відаць, што ад іх рашэнняў не залежыць, куды пойдуць грошы. У рэшце рэшт, грошы могуць пайсці спачатку на больш "прэстыжныя" аб'екты, а затым ужо на тое, каб вырашыць надзённыя патрэбы насельніцтва. Пры ўсім тым, што ў адзін момант можа адбыцца скарачэнне ўсіх бюджэтаў.

**Алесь Шумскі.**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# 2012 – НЕПЕРААДОЛЕНЫ БАР'ЕР

КАЛІ РАЗВІТВАЛІСЯ З 2010 ГОДАМ, БЫЛО ГОРКА ЗА НЯСПРАЎДЖАНЫЯ СПАДЗЯВАННІ І СТРАШНА ЗА БУДУЧЫНЮ. ПРОВАДЫ 2011-ГА — ЯК ПЕРАПРАВА ПРАЗ БУРЛІВУЮ РАКУ: ПАСЛЯ МУСІЦЬ БЫЦЬ ЛЯГЧЭЙ. НАПРЫКАНЦЫ 2012-ГА ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ЎСЁ — І АДМОЎНАЕ, І ПАЗІТЫЎНАЕ — ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ.




Пачыналі гэты год на хвалі эмоцый ад раптоўнага эканамічнага абвалу. І, хаця эксперты канстатуюць, што насельніцтва Беларусі збяднела, напрыканцы снежня стала вядома, што ў сярэднім па краіне атрымалася вярнуць заробкі на ўзровень канца 2010 года.

Так, міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Марыяна Шчоткіна на днях заявіла, што ў рэспубліцы па выніках года сярэдняя заработная плата дасягне вызначанага Лукашэнкам узроўню ў 500 долараў у эквіваленце. Мантра «па пяцьсот», як бачым, працуе. Канешне, не трэба забывацца пра сярэднюю тэмпературу па бальніцы. Тым больш, гэта пацвярджае вывучэнне патэнцыйных заробкаў з базы вакансій — прапановы заробку да 2,5 мільёнаў беларускіх рублёў для рэгіянальных гарадоў надзвычай пашыраныя, і ад запаветных «усім па пяцьсот» гэта далёка.

На наступны ж год падрыхтаванае новае заклінанне: не так даўно міністр эканомікі Беларусі Мікалай Снапкоў заявіў, што ў новым 2013 сярэдняя зарплата беларусаў дарасце да 700 долараў. Кіраўнік Мінэканомікі выказаў упэўненасць, што заяўлены ў якасці прагнозная параметра ў 2013 годзе рост сярэдняй зарплаты па краіне да 700 долараў у эквіваленце будзе выкананы, рэзервы для гэтага ёсць.

Апроч эканамічных тэмаў, якія, безумоўна, краналі розум і душу большасці насельніцтва, цягам года ў Беларусі былі падзеі, цікавыя больш вузкай аўдыторыі. На жаль. Так, у сакавіку былі прыведзеныя ў выкананне смяротныя прысуды Дзмітрыю Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву, якіх Вярхоўны суд прызнаў вінаватымі ў арганізацыі выбуху ў мінскім метро ў красавіку 2010 года. Справа была неадназначнай, назіральнікі апелявалі да шматлікіх нестасовак, супярэчнасцяў у доказнай базе. Тым не менш прысуд быў выкананы, і рэакцыя на яго была такой жа: адны ўхвалілі пакаранне, другія неслі партрэты Улада Кавалёва да мемарыяла побач з уваходам у метрапалітэн.

Напрыканцы года беларускія праваабарончыя арганізацыі назвалі праваабаронцам года Любоў Кавалёву — маці Уладзіслава, якая ўвесь гэты час змагалася за свайго сына, і працягвае гэта рабіць цяпер. Толькі ўжо ў спробах аднавіць яго добрае імя. Негатыўнай была рэакцыі і з боку Еўрапейскага саюза, адкуль прыйшло паведамленне, што «смяротнае пакаранне ў любых абставінах разглядаецца як жорсткае і бесчалавечнае пакаранне, якое перастае быць сродкам стрымлівання і ўяўляе сабой недапушчальнае адмаўленне чалавечай годнасці і недатыкальнасці».

На канец года ў Беларусі, паводле ацэнак праваабаронцаў, ёсць 12 палітзняволеных. Сярод іх і былы кандыдат на пасаду прэзідэнта Мікалай Статкевіч. «19 снежня 2010 года — дзень выбараў прэзідэнта — дата, якая стала кропкай незвароту, калі масавыя затрыманні, катаванні ў турмах і бяспраўе з боку сілавікоў стала ўвайшлі ў жыццё беларусаў», — эмацыйна пішуць праваабаронцы ў другую гадавіну падзей у дзень выбараў. Усе пералічаныя аспекты ўвайшлі ў жыццё беларусаў, але беларусы ў адказ на гэта пастараліся максімальна сысці ў свой свет, абстрагаваны ад палітыкі. Дом, сям'я, праца, пошук сродкаў на жыццё, эміграцыя (палітычная і эканамічная) — 2012 год стаўся годам абывацеля, калі на першы план выступілі патрэбы і зацікаўленасці з першых прыступак знакамітай піраміды Маслоў.

Да скандалу з невыкананнем плану па алімпійскіх медалях (але варта прызнаць, што беларуская зборная выступіла ўсё ж годна: 13 медалёў у 7 відах спорту; з іх 3 залатыя, 5 сярэбраных і 5 бронзавых) крыху пазней дадалося расчараванне ў сувязі з ануляваннем перамогі штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук — яе абвінавацілі ў прымяненні допінгу і забралі залаты медаль.

Тым не менш напрыканцы года ў беларусаў была нагода для гонару: ФК «БАТЭ» стаў чэмпіёнам у дзявяты раз і сёмы запар. Акрамя таго, у гэтым годзе БАТЭ выключна выступіў у Лізе чэмпіёнаў — каманда Віктара Ганчарэнкі атрымала перамогі над французскім ФК «Ліль» і нямецкай «Баварыяй». Гэта той выпадак, калі без загадаў зверху прадстаўнікі Беларусі дасягаюць поспеху. Застаецца верыць, што не за гарамі дзень, калі добрая воля і адчуванне ўласнай свабоды, а не пагрозы адправіцца на нары за нявыкананыя разнарадкі зверху, будуць падштурхоўваць нашых суайчыннікаў да перамог і трыумфаў ва ўсіх сферах, і на тэрыторыі сваёй дзяржавы.

**Вольга Хвоін, "Новы час".**

НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

# СЁНЬНЯ – ПАЎЛАВІЧЫ, А ЗАЎТРА – ТЫ

ДЫ З ЛЮДЗЬМІ ТРЭБА БЫЛО СПАЛІЦЬ ТЫЯ ХАТЫ Ў ВЁСЦЫ ПАЎЛАВІЧЫ ПАД ВІЦЕБСКАМ, ПІША СВЯТЛАНА КАЛІНКІНА Ў «НАРОДНАЙ ВОЛІ». ЛЮДЗЕЙ НА МАРОЗ З УСІМІ РЭЧАМІ, ЯК ПРЫ РАСКУЛАЧВАНЬНІ, — ГЭТА Ж САБЕ ВОРАГАЎ ПАКІДАЦЬ, СЬВЕДАК. А НАВОШТА НАШАЙ УЛАДЗЕ ВОРАГІ?.. НАВОШТА СЬВЕДКІ?.. ПАЛІЦЬ ТРЭБА БЫЛО! ЗЬНІШЧАЦЬ! СЬЦІРАЦЬ З ТВАРУ ЗЯМЛІ!

**Не дадумаліся. Усяленскай значнасьці падзея — Лукашэнка ў картэжы міма праедзе** і, можа, галаву ў гэты бок паверне. А тут — прыгажосьць. Чысценькароўненька. Ніякіх развалюхаў, ніякіх незадаволеных асобаў. Ціха.

Поле... Ды такое, што проста падмецена. Значыць, рыхтаваліся, як ніхто раней. Можа, ацэніць...

Пах гару?.. **Наконт гару прэзыдэнт указаньняў не даваў**, толькі б сьмецьця не было.

...**Хто скажа, што віцебскія ўлады ў сваім розуме**, калі аддалі загад тэрмінова адсяліць, зьнішчыць, спаліць вёску, якая, хоць і фантомная, але жыла, агароды садзіла, нават на выбарах галасавала?

Ад фота, ад аповедаў людзей, якія ўсё гэта перажылі, ад сьведчаньняў журналістаў першая рэакцыя — шок.

У імя якой вышэйшай мэты людзей можна вось так? Без падрыхтоўкі, без папярэджаньня, не даўшы часу на зборы — выкінуць з абжытых дамоў у мароз. Яны ж усё жыцьцё гэта дабро нажываць. Кожны тазік і чыгунок, кожны абрус. Гэта іх крэўнае, гэта іх жыцьцё. Нават калі юрыдычна гэта ўжо ня іх дамы, то гэта іх дошкі. Чаму ўсё пайшло ў агонь, каб не мазоліць вачэй высокаму госьцю?

**Псыхоз і вар'яцтва.** Нездаровае жаданьне выслужыцца. Паталягічнае. Фанатычнае.

Ці страх. Такі, калі чалавек на ўсё гатовы. Калі ён сыляпы, глухі і ў нейкім сэнсе ўжо не чалавек зусім.

**Ці лютая, усёпаглынальная пагарда да ўсіх, хто статусам ніжэй.** Гэтакая ненармальная рэабілітацыя за ўласныя зьнявагі, якімі гэты статус здабываўся.

**Старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандар Косінец — доктар.** Ён умее ставіць дыягназы і, напэўна, сам абярэ, які варыянт больш падыходзіць. Але калі кіраўнік Савету бясьпекі ад нарады да нарады вяшчае, што нехта вядзе з беларускай уладай інфармацыйную вайну і мэтанакіравана спрабуе дыскрэдытаваць яе ў вачах народа, то я нават магу падказаць генэралу, дзе трэба нэўтралізоўваць пагрозу.

Пагроза — вось такія косінцы. Таму што ніякія ворагі ім не падказвалі, гэта яны самі дадумаліся да візыту Лукашэнкі выкінуць з дамоў людзей, а непрэзэнтабельную вёсачку проста спаліць.

І тым самым зрабілі максымум магчымага, каб увесьці ў ступар, у шок, у абурэньне ўсю краіну. Таму што кожны, хто даведаецца пра здарэньне, прыкладзе ўсю гэтую сытуацыю на сябе, і жахнецца. Таму што сёньня — Паўлавічы, а заўтра — ты. Сёньня — на мароз, а заўтра — разам з людзьмі.

Усякае было. Але такога ўсё ж такі раней не было...

САЦЫЯЛЬНЫЯ ПЫТАННІ

# ЦЭНЫ НА НАВУЧАННЕ Ў БЕЛАРУСКІХ ВНУ ТАРМАЗІЦЬ НЯМА ЧЫМ

ДАРУЧЭННЕ РАЗАБРАЦЦА З ВЫСОКАЙ ПЛАТАЙ ЗА АДУКАЦЫЮ КІРАЎНІК ДЗЯРЖАВЫ ЗРАБІЎ 21 СНЕЖНЯ ПАДЧАС НАВЕДВАННЯ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА ІНФАРМАТЫКІ І РАДЫЁЭЛЕКТРОНІКІ. РАЗАБРАЛІСЯ ХУТКА.У ГЭТЫ Ж ДЗЕНЬ МІНІСТР АДУКАЦЫІ ЗАЯВІЎ, ШТО НЯМА НІ РЭСУРСУ ДЛЯ ЗНІЖЭННЯ ПЛАТЫ ЗА НАВУЧАННЕ, НІ ПАТРЭБЫ Ў ГЭТЫМ.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што кошты на навучанне ў Беларусі «даволі высокія» і іх варта «прытармазіць»: «З гэтым трэба разабрацца». Звяртаючыся да кіраўніцтва Міністэрства адукацыі і Адміністрацыі прэзідэнта, кіраўнік дзяржавы заявіў: на першых двух курсах вучобы аплата павінна быць «зберагалай», а на старэйшых курсах - «трэба паглядзець».

У 2011-2012 навучальным годзе кошт навучання ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установы Беларусі павышалася чатыры разы: 1 верасня 2011 года - прыкладна на 20%, у кастрычніку-лістападзе - на 25%, 1 лютага 2012 - на 29%, 1 чэрвеня - на 5%.

Каментуючы даручэнне кіраўніка дзяржавы, міністр адукацыі Сяргей Маскевіч заявіў, што ў Беларусі няма рэсурсу для зніжэння платы за навучанне ў ВНУ і патрэбы ў гэтым. «У нас датуецца платную адукацыю, трагіна бягучых і капітальных выдаткаў аплачвае дзяржава. На наступны год у бюджэце краіны не запланаваны расходы на кампенсацыю студэнтам-платнікам», - паведаміў Маскевіч.

У любым выпадку, відавочна, што плаціць студэнтам даводзіцца нямала. Паводле звестак Мінадукацыі, у гэтым навучальным годзе кошт платнага навучання на дзённай форме ў ВНУ складае ад 7 млн. 153 тыс. рублёў (каля 800 даляраў) да 14 млн. 950 тыс. рублёў (1750 даляраў).

Пры гэтым у даляравым эквіваленце ў некаторых ВНУ кошт навучання нецягвае да дакрызісных тарыфаў. Напрыклад, студэнту медуніверсітэта ў канцы 2010 года трэба было плаціць максімум 5 млн. 430 тыс. рублёў за год (1750 даляраў). Цяперашняя максімальная плата (лячэбнае справа) - 13 млн. 700 тыс. рублёў (1600 даляраў).

Беларускі дзяржаўны універсітэт лідзіруе ў кошту навучання ў Беларусі: максімальная аплата на першым курсе - 14 млн. 950 тыс. рублёў («правазнаўства» і «эканамічнае права» на юрыдычным факультэце, «міжнароднае права» на факультэце міжнародных адносін). Гэта 1750$ (па курсе 8540 рублёў за долар). На 1 верасня 2010 года навучання на самых дарагіх спецыяльнасцях БДУ складала 5 млн. 327,6 тыс. рублёў, або 1775 даляраў (пры курсе 3000 рублёў за долар).

Адзначым, што ў Беларусі налічваецца больш за 430 тыс. студэнтаў, з іх амаль 90% навучаюцца ў дзяржаўных ВНУ. Звыш 88 тыс. студэнтаў прынята на навучанне ў 2012 годзе. І толькі кожны трэці студэнт ВНУ краіны навучаецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту. Такім чынам, большасць - платнікі.

Па-першае, павелічэнне набору за кошт платнікаў становіцца прычынай перагружанасці ВНУ і пагаршэння умоў навучання для ўсіх. Па-другое, студэнты-платнікі знаходзяцца на асаблівым становішчы. Няўдачнікаў платнікаў цягнуць з усіх сіл, таму што ВНУ ў іх матэрыяльна зацікаўлены. Плата студэнтаў вырашае праблему недафінансавання сферы адукацыі.

Кіраўнік дэпартамента палітычных навук Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (ЕГУ, Вільня) Віктар Марціновіч у каментары для Naviny.by сказаў, што палеміка паміж прэзідэнтам і міністрам у яго разуменні з'яўлялася «размовай рэаліста з папулістам»: «Для іміджу, рэйтынгу ўлады было б добра, калі б рост коштаў на адукацыйныя паслугі можна было спыніць, аднак для гэтага няма рэсурсаў ».

Марціновіч адзначыў, што ў цяперашні час пытанне, хто з'яўляецца электаратам Лукашэнкі, адкрыты. Мяркуючы па пачасціўшыхся сустрэчам з рознымі пластамі насельніцтва - ад дрэваапрацоўшчыкаў да студэнтаў - адбываецца пошук новай электаральнай базы.

«Звярніце ўвагу, - кажа Віктар Марціновіч, - прэзідэнт час ад часу кажа аб лібералізацыі эканомікі, зніжэнні ўплыву дзяржавы на яе, што можа спадабацца нейкай часткі моладзевай аўдыторыі. Што датычыцца студэнтаў, трэба мець на ўвазе, што яны заўсёды і ўсюды супраць сістэмы. Таму Лукашэнка, які ўжо вельмі доўга знаходзіцца ва ўладзе, спадзявацца на падтрымку ў студэнтаў не даводзіцца ».

Гаворачы аб кошце навучання ў ВНУ Беларусі, Марціновіч адзначыў, што ён высокі. Ён прывёў прыклад: год у Сарбоне для першакурсніка, якое навучаецца па спецыяльнасці «юрыспрудэнцыя», каштуе 200 еўра і столькі ж трэба заплаціць за сацыяльную страхоўку. Марціновіч адзначае, што гэта звязана з тым, што сістэма платнай адукацыі ў Францыі існавала заўсёды. Там, у адрозненне ад Беларусі, права бясплатную адукацыю ў Канстытуцыі нічога не напісана. Як вынік, сістэма працуе ў аптымальным рэжыме, а ў нас жа яна разбалансавана.

**Алена Спасюк, naviny.by**

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЭНКА ВАЮЕ НА ДВА ЎНУТРАНЫХ ФРОНТА

ПЕРАДНАВАГОДНЯЯ РАЗДАЧА ПОЎХ БЕЛАРУСКАЙ НАМЕНКЛАТУРЫ ПРАЦЯГВАЕЦЦА. НАВЕДВАЮЧЫ 17 СНЕЖНІ СТАЛІЧНЫ “КАМВОЛЬ”, АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА, АБУРАНЫ СТАНАМ СПРАЎ, ТУТ ЖА ЗВОЛЬНІЎ І ДЫРЭКТАРА ПРАДПРЫЕМСТВА, І КІРАЎНІЦТВА КАНЦЭРНА «БЕЛЛЕГПРАМ».

Новапрызначанага кіраўніка «Камволь», якому належыць выцягнуць ААТ з ямы, прэзідэнт даў наказ з бацькоўскай цеплынёй: «Не зробіш - пасаджу!». Заадно зрабіў апошняе папярэджанне ўраду Мясніковіча.

Чыноўнікі і дырэктарат ў апошнія месяцы дрэнна спяць і п’юць шмат валяр’янкі. Кіраўнік дзяржавы загадаў на 25-30% скараціць кіраўнічы апарат (гучна назваўшы гэта рэформай органаў улады), зняў кіраўніцтва спартыўнай галіны, звольніў кіраўніка КДБ, ну а ўжо галавы падпарадкаваных мяльчэй (у мінулым месяцы на «Івацэвічдрэў», цяпер на «Камволь») ссякалі, як капусныя качаны.

Ліберальныя аглядальнікі цвердзяць, што Лукашэнка канчаткова зрабіў стаўку на закручванне гаек ва ўсіх сферах. А нядаўні дэкрэт № 9, абмежаваныя правы работнікаў звальняцца з прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі (у імя поспеху мадэрнізацыі галіны), называюць, спаборнічаючы ў хвосткім эпітэтах, увядзеннем прыгону і нават рабства.

Атрымліваецца, што беларускі прэзідэнт не шкадуе ні наменклатуру, ні свой традыцыйны электарат? Павёў вайну на два фронты?

Прэзідэнт вырашыў ўспомніць маладосць

Эксперты адзначаюць, што Лукашэнка спрабуе трасянуць даўнінай. У сітуацыі, калі абвастрыліся выклікі, ён «інтуітыўна ідзе на заціскання гаек, звяртаецца да метадаў, якія прынеслі яму адносны поспех у 90-х гадах», заявіў у каментары для Naviny.by дырэктар па даследаваннях менскага «Ліберальнага клуба» Яўген Прэйгерман.

«Гэта вяртанне да метадаў 90-х гадоў», - лічыць, са свайго боку, і эксперт аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Валерый Карбалевіч. У інтэрв’ю для Naviny.by ён нагадаў: тады малады прэзідэнт хацеў спадабацца народу і падносіў чыноўнікаў як галоўных ворагаў простага чалавека, часта практыкаваў іх публічныя разносы.

Але ў тлустыя 2000-я гады гэтая практыка амаль спынілася, Лукашэнка стаў падлашчвацца з кіруючым класам. Зараз жа, з аднаго боку, абвастрылася патрэбнасць мадэрнізаваць эканоміку, з другога - упаў рэйтынг. І Лукашэнка, на думку Карбалевіча, вырашыў ўспомніць прэзідэнцкую маладосць - стаў прыціскаць наменклатуру.

Але другі раз увайсці ў тую ж раку праблематычна. Па-першае, ва ўмовах, калі папулярнасць афіцыйнага лідэра ўпала (рэйтынг, па дадзеных НІСЭПД, вагаецца ў раёне 30%), роля апоры на наменклатуру аб’ектыўна ўзрастае.

Па-другое, загвазка ў тым, што цяпер даводзіцца аднachасова прыціскаць і рабацяг. Хаця Лукашэнка па іроніі лёсу б’ецца над задачай зноў купіць іх добразычлівасць, аднавіць сацыяльны кантракт, які пахіснуўся пасля леташняга фінансавага абвалу.

Разлік на страх і пакорлівасць

Так, скандальны дэкрэт № 9 (дарэчы, пакорліва прыняты да ведама Палатай прадстаўнікоў як раз у дзень разносу на «Камволь») прадыктаваны фармальна добрымі намерамі падняць галіну і заробкі ў ёй, каб адтуль нікога калом ня выгнаць было. Але, разважае Валерый Карбалевіч, наколькі адпавядае сацыяльнаму кантракту тое, што Лукашэнка «спрабуе падняць зарплату з дапамогай прыгоннага права»?

Раней прэзідэнт тонка адчуваў у адносінах як з чыноўнікамі, так і рабацяг тую мяжу, за якую пераходзіць нельга, адзначае аналітык. Але цяпер «ён блізкі да таго, каб пераступіць гэтую мяжу».

Вядома, тут дзейнічае разлік на страх і маўклівасць. Гэта стан характэрна як для вярхоў, так і для нізоў. Лукашэнка трымае наменклатуру ў падпарадкаванні паказальнай лупцоўкай,ператрахваннем кадраў. Магчымасць нейкага бунту на караблі, змовы (па сцэнары Крамля, напрыклад), палацавага перавароту практычна ўсім аналітыкам прадстаўляецца на сёння ілюзорнай.

Дарэчы, менавіта таму не можа быць патэнтаванай пераможнай стратэгіі для палітычнай апазіцыі. Сакралізаваная аднымі і развянчанай іншымі Плошча можа перамагчы толькі ва ўмовах раскола кіруючай эліты. Пакуль раскол не відаць і пад лупай. Але хто ведае, што будзе да 2015 году, калі працягнецца гэтая мадэрнізацыя ў стылі сякер-башка.

Ну а народ не столькі нават запалоханы (б’юць бо ў асноўным кропкава па нешматлікай інтэлігенцкай «пятай калоне»), колькі апалітычны і не верыць супернікам Лукашэнкі.

Але калі перапаўнецца чаша цярпення, маса хутка палітызуецца і знаходзіць стыхійных лідэраў. Так было вясной 1991 года, калі застылыя ў жаху насельнікі Дома ўрада ў Мінску ўбачылі пад вокнамі сто тысяч панурых пралетарыяў. Пры тым што Беларусь славілася апорай савецкага кансерватызму, «Вандзя перабудовы».

**Аляксандр Класкоўскі, “Белапан”**

ТАКАЯ МАДЭРНІЗАЦЫЯ

# ПРЫГОННАЕ ПРАВА Ў XXI СТАГОДЗЬДЗІ

АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАДПІСАЎ ДЭКРЭТ № 9 «АБ ДАДАТКОВЫХ МЕРАХ НА РАЗЬВІЦЦЁ ДРЭВААПРАЦОЎЧАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ».

Згодна з дакумэнтам, работнікі галіновых прадпрыемстваў, якім аказваецца дзяржаўная падтрымка ў мадэрнізацыі вытворчасьцяў, будуць пераведзеныя на кантрактную форму найму.

Датэрміновае скасаваньне кантрактаў на час рэалізацыі інвэстыцыйных праектаў зь ініцыятывы супрацоўнікаў дапускаецца толькі са згоды наймальніка. Адмова наймальніка можа быць абскарджаная ў старшыні Менскага абласнога ці гарадзкога выканаўчага камітэту. З аднаго боку, прыбыткі ў дзяржаўным сэктары настолькі нізкія, што ўлады самі ж не пакідаюць іншага выйсьця, як шукаць шчасьця за мяжой. Зь іншага боку, цяперашняе заканадаўства не прадугледжвае ўвядзеньня «прыгоннага права», якім можна ўтрымліваць людзей на правах нявольнікаў.

Наведваючы пры канцы мінулага тыдня дрэваапрацоўчае прадпрыемства «Барысаўдрэў», Аляксандар Лукашэнка зрабіў гучную заяву. Ён распарадзіўся падрыхтаваць дэкрэт, згодна зь якім з прадпрыемстваў, якія мадэрнізуюцца за дзяржаўны кошт, звальняцца забараненая. На думку Лукашэнкі, такі крок выгадны найперш самім працаўнікам, якія пасьля мадэрнізацыі заводаў у 2015 годзе пачнуць зарабляць «па тысячы даляраў».

Згодна з прэзыдэнцкім дэкрэтам, у выпадку парушэньня работнікамі працоўных абавязаньняў і звальненьня, сума атрымaных імі грашовых выплат падлягае вяртаньню за ўвесь перыяд працы.

Камэнтуе старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандар Ярашук: «Калі наша ўлада яшчэ больш хоча сябе дыскрэдытаваць і выклікаць абурэньне (дарэчы, справядлівае), то хай робіць такія захады. З майго пункту гледжаньня, улада першая расьпісалася ў няздольнасьці рэалізаваць годную эканамічную палітыку, што і прывяло да таго, што людзі вымушаныя зьяжджаць — калі гаварыць пра працоўную міграцыю. І калі яны, скажам, працаўладкаваліся ў Расеі з заробкам у некалькі разоў большым, то гэта адбылося не таму, што ім вельмі так карцела. Яны проста вымушаныя так рабіць, бо дзяржава не пакінула выбару. І пры гэтым ім яшчэ, напэўна, трэба сказаць дзякуй, бо тым самым яны зьнялі пэўныя праблемы і зь недарэчнай палітыкі ўладаў. Яны зарабляюць грошы, яны ўтрымліваюць свае сем’і, і любыя захады, каб нейкім чынам пакараць іх, у тым ліку што тычыцца абяцаньня 100-працэнтнага спагнаньня камунальных плацяжоў, я лічу, вядома ж, недапушчальнымі. Пра гэта і размовы быць ня можа».

Сытуацыя на прадпрыемствах і дрэваапрацоўчай галіны, і бальшыні іншых, падкантрольных дзяржаве, амаль што крытычная. 3 маральна састарэлых канвэераў выходзіць нікому не патрэбная прадукцыя, якая ў лепшым выпадку рэалізуецца на ўнутраным рынку.

У адсутнасьць экспартных паставак і, як вынік, валюты на рахунках абяцаньні выхаду на тысячу даляраў заробку выглядаюць утапічнымі. Супрацоўнікі таго ж «Барысаўдрэва» не хаваюць, што выжываюць на 150 даляраў у месяц, што ў 2-3 разы меней, чым сярэдняя пэнсія. У падвышэньне ў 6–7 разоў ня верыць практычна ніхто. Таму і лягічная тэндэнцыя: пабыўшы ў скуры жабракоў, маса зьяжджаюць на заробкі. Перадусім — у Расею, дзе такая ж праца ацэньваецца разоў у 10 вышэй.

Адмыслоўцы лічаць, што ўсё складаней утрымаць людзей на дзяржаўных прадпрыемствах нават абяцаньнямі заробку ў 500 даляраў, ня кажучы пра цяперашнія сярэднія 300. У беларускіх суседзяў прыбыткі ўжо даўно істотна перавышаюць гэты паказьнік — пры тым, што цэны на харчаваньне і асноўныя прадметы ўжытку як мінімум аналягічныя.

Калі ж разглядаць асобна дрэваапрацоўчую галіну, прасьвету і пагатоў не відаць. Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэту, сёлета за 10 месяцаў адбылося зьніжэньне аб’ёму вытворчасьці па ўсіх асноўных таварных пазыцыях — пілаваных лесаматэрыялах, драўнянавалакністых плітах, шпоне і г.д. Растуць запасы гатовай прадукцыі: у цэлым па галіне — 64% сярэднемесячнага аб’ёму вытворчасьці, а па асобных пазыцыях лічбы ўвогуле зашкальваюць. Так, запасы паркету перавышаюць 600% (!) сярэднемесячнага аб’ёму.

Не дадае падставаў да аптымізму і празьмерная закрэдытаванасьць прадпрыемстваў галіны: паводле дадзеных на 1 кастрычніка, крэдыторская запазычанасьць вырасла ад пачатку году амаль на 15%, дасягнуўшы 1 трыльёна рублёў. А запазычанасьць па крэдытах і пазыках інвэстыцыйнай накіраванасьці склала 3 трыльёны 300 мільярдаў рублёў.

**Ігар Карней, “Радыё Свабода”.**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# «БЕЛВЕСТ» ПАД ПАГРОЗАЙ СПЫНЕННЯ: РАХУНКІ АРЫШТАВАЎ ДЗЯРЖКАНТРОЛЬ

ПРАДПРЫЕМСТВУ НАЛІЧЫЛІ 8 МЛРД «ПАДАТКАЎ, ЗБОРАЎ, ПОШЛІНАЎ І ПЕНЯЎ». РАЗЛІКОВЫЯ РАХУНКІ ВЯДУЧАГА БЕЛАРУСКАГА ВЫТВОРЦЫ АБУТКУ, ВІЦЕБСКАГА «БЕЛВЕСТУ», ЗАБЛАКАВАНЫЯ.

Гэтую інфармацыю пацвердзілі TUT.BY некалькі крыніц. Супрацоўнікі прадпрыемства асцерагаюцца, што застануцца без заробку напярэдадні навагодніх святаў, абвінавачваючы ў гэтым прадстаўнікоў мясцовых дзяржорганаў.

У паведамленні прадстаўнікоў «Белвесту» сказана, што «Камітэт дзяржкантролю па Віцебскай вобласці, правёўшы праверку прадпрыемства, выявіў толькі станоўчыя і прыбытковыя вынікі працы. Пасля чаго дзяржорганы прынялі рашэнне, што з імі трэба дзяліцца». Таму 10 снежня напярэдадні выплаты зарплаты працоўным «службовымі асобамі Віцебскай падатковай інспекцыі былі арыштаваныя рахункі «Белвесту». У распараджэннях падатковай паказана, што «ў сувязі з невыкананнем або ненележным выкананнем ва ўстаноўлены тэрмін падатковага абавязацельства, нясплатай пеняў, спагнаць падаткі, зборы, пошліны і пені за кошт грашовых сродкаў, якія знаходзяцца на разліковых рахунках плацельшчыка» на суму больш за 8 млрд рублёў.

На «Белвесце „сцвярджаюць, што ў іх „цалкам адсутнічаюць падатковыя і іншыя абавязацельствы перад бюджэтам“. У той жа час банкамі прыпыненыя ўсе аперацыі па рахунках.

У „Белвеста“ маюцца абавязацельствы па сацыяльнай абароне працоўных — „уласны пункт аховы здароўя, сталовая, якія патрабуюць штодзённых бесперапынных выдаткаў для належнага абслугоўвання работнікаў, выканання мер па ахове працы“. „Прыпыненне ўсіх аперацый па рахунках наносіць непапраўную шкоду і ў сферы гаспадарчай дзейнасці — немагчыма своечасова выконваць крэдытныя абавязацельствы перад банкамі, абавязацельствы перад пастаўшчыкамі, ажыццяўляць закупкі сыравіны, матэрыялаў і абсталявання для вытворчасці абутку. Такім чынам, да Новага года без сродкаў да існавання застануцца больш за 2 тысяч працоўных; спыніцца вытворчасць абутку“, — гаворыцца ў лісце супрацоўнікаў“ Белвесту».

У Камітэце дзяржкантролю па Віцебскай вобласці сказалі, што «праверка» Белвесту «працягваецца».

На абутковым прадпрыемстве ўдакладнілі, што кантралёры цяпер знаходзяцца на даччыным прадпрыемстве — «Белвестрытэйл».

У цяперашні час ільвіная доля прадукцыі «Белвесту» рэалізуецца ў РФ, дзе адкрыта вялікая сетка фірмовых крамаў.

Месяц таму Аляксандр Лукашэнка заявіў, што абутковая галіна Беларусі паразітуе на золатавалютных рэзервах дзяржавы. Ён таксама раскрытыкаваў прапановы ўрада па стварэнні гарбарна-абутковых холдынгаў.

**TUT.BY**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.12.2012 у 20.10.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.